Васіль Быкаў

# Дажыць да світання

*Аповесці*

Мінск
Юнацтва
1990

## ЭПАПЕЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрзат Леніяскай прэміі Васіль Быкаў належыць да самых папулярных сучасных пісьменнікаў не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў маштабах усёй шматнацыянальнай Савецкай краіны. Згодна падлікам нашых бібліёграфаў, яго творы друкаваліся на пяцідзесяці з лішнім мовах, сярод якіх (калі браць толькі мовы замежныя) — англійская, іспанская і партугальская, нямецкая і французская, італьянская і румынская, венгерская і польская, чэшская і славацкая, сербахарвацкая, македонская і славенская, вьетнамская і кітайская, турэцкая, арабская і японская, бенгалі і хіндзі, тэлугу і урду. Кнігі Васіля Быкава выходзілі ў Югаславіі і ЗША, у Варшаве, Берліне і Лейпцыгу, Празе і Браціславе, Бухарэсце і Будапешце, Сафіі, Плоўдзіве і Ханоі, Капенгагене, Гаазе і Лісабоне, Парыжы і Лондане, Каіры і Калькуце, Таронта, Гаване і Сіднеі.

Пачынаўся ж творчы шлях пісьменніка зусім звычайна — з апавяданняў, якія ў 1949 годзе былі змешчаны ў газеце «Гродзенская праўда» і фактычна аказаліся не заўважанымі, прынамсі, шырокай літаратурнай грамадскасцю, хаця даследчыкі быкаўскай творчасці цяпер ацэньваюць гэтыя апавяданні даволі прыхільна.

Значна больпы грамадскі рэзананс мелі апавяданні Васіля Быкава, надрукаваныя ў 1956-1957 гадах, і асабліва яго аповесць «Жураўліны крык» (1959), якая прынесла празаіку трывалае і цалкам заслужанае прызнанне. Ужо ў гэтай аповесці маштабна і ярка выявіліся і выдатны талент аўтара, і яго грамадзянская сталасдь, выразна адчуваўся яго багаты жыццёвы вопыт, набыты галоўным чынам у суровых выпрабаваннях Айчыннай вайны, доўгія, нечувана пакутлівыя вёрсты якой Васіль Быкаў мераў да яе апошняга дня.

Зрэшты, і даваеннае жыццё не асабліва песціла Быкава. Нарадзіўся ён 19 чэрвеня 1924 года ў вёсцы Бычкі на Полаччыне. Дзяцінства, па словах пісьменніка, «выдалася скупое на радасці і труднае, як і ўвесь той час. Часта жылося ў непаладках, нястачы». Светлыя часіны давала найбольп захапленне літаратурай. «Майн Рыд, Жуль Берн, Джэк Лондан, а такса ма Гайдар, Горкі, Талстой — вось уладары маіх тагачасных дум, тыя, хто запаліў у душы агеньчык надзеі і паклікаў да іншага і светлага»,— з удзячнасцю пісаў Васіль Быкаў, углядаючыся ў далёкія ўжо часы свайго юнацтва. Чытаў ён таксама творы Дастаеўскага, Пісемскага і іншых рускіх класікаў. Мастацкі вопыт, традыцыі Талстога і Дастаеўскага, Горкага і Шолахава, Фадзеева і Твардоўскага, а таксама беларускіх класікаў Коласа, Гарэцкага і Чорнага, часткова Лынькова і Мележа з цягам часу знойдуць сваё шматстайнае асэнсаванне, развіццё і працяг у творчай дзейнасці Васіля Быкава, стануць яму надзейнымі арыенцірамі ў самім разуменні пісьменніцкага абавязку як вялікага, самаадданага грамадскага служэння і заўсёды будуць для яго трывалай апорай у барацьбе за праўдзівасць літаратуры, за яе гумакістычны пафас.

Вядома, усё гота прыйдзе значна пазней. А тады, у перадваенны час, Быкаў яшчэ і не марыў пра літаратурны занятак, а збіраўся прысвяціць сябе выяўленчаму мастацтву і паступіў на скульптурнае аддзяленне Віцебскага мастацкага вучылішча. «Толькі вучыцца там доўга не давялося: у 1940 годзе адмянілі стыпендыі, і гэтая акалічнасць вярнула мяне ў вёску. Невясёлае было тое вяртанне»,— прыгадвае пісьменнік.

Напярэдадні вайны, зразу мела, не здагадваючыся пра яе такое хуткае набліжэнне, хлопец прыехаў у горад Шостку Сумскай вобла сці. «Я прыехаў у Шостку ў суботу, а ў нядзелю ўжо было 22 чэрвеня... Упачатку — інжынерны батальён, амаль кругласутачная работа па будаўніцтву ўмацаванняў, адступленне». «Зазнаў шмат трывог за сябе, за Радзіму, за лес чалавецтва таксама. Пасля быў год звышчалавечага напружання ў вайсковым вучылішчы: дзесяцігадзінныя заняткі, земляныя работы і начныя дзяжурствы на абаронных заводах, якія люта бамбілі немцы»,— так пачыналася гарта ванне чалавечага характеру Васіля Быкава, выпрабаванне яго грамадзянскай мужнасці і патрыятычных пачуццяў.

Скончыўшы паскораны курс Саратаўскага пяхотнага вучылішча, Быкаў атрымаў званне малодшага лейтэнанта і ў якасці «камандзіра стралковага ўзвода, узвода аўтаматчыкаў і ўзвода супрацьтанкавай артылерыі (калібра 45, 57 і 76 мм) ваяваў да канца вайны»,— сухаватай, але затое гранічна сціслай, вычарпальнадакладнай мовай прафесійнага вайскоўца гаворыць пісьменнік. Яго салдацкі шлях, адметны жорсткімі, кровапралітнымі баямі, пралёг праз Украіну, Румынію, Венгрыю і Аўстрыю. І ўсё ж яму яшчэ шанцавала. «На здзіўленне, усяго толькі двойчы паранены. Але затое адзін раз ... пахаваны ў брацкай магіле пад Кіраваградам. Усё як належыць: маці ўручылі афіцыйную пахавальную. А я быў проста паранены»,— расказваў Васіль Быкаў у інтэрв'ю для газеты «Известия». З іншай нагоды пісьменнік расшыфраваў гэтае, мусіць, з горкай усмешкай сказанае «проста паранены». Смерць, якая шмат разоў, можна сказаць, штодзённа, а то і шточасна падпільноўвала кожнага з франтавікоў, асабліва ў перыяды баёў, тады прайшла зусім побач. Вырваў з яе ўжо растапыраных учэпістых лап франтавы таварыш, камандзір роты, у склад якой уваходзіў узвод Васіля Быкава. Ен, той ротны камандзір, у апошні момант падарваў гранатай фашысцкі танк, які насцігаў параненага ў нагу Быкава. Небяспека была настолькі блізкай, што і пасля выбуху гранаты варожая машына, ужо спыняючыся, яшчэ ўціснула ў снег полы шыняля распластанага на зямлі параненага воіна. Ногі ён інстынктыўна падабраў пад сябе.

Гэтыя жахлівыя падзеі адбываліся ў студзені 1944 года пад той самай Севярынаўкай на Кіраваградчыне, дзе Васіль Быкаў зяачыўся пахаваным. Там гітлераўцы тады ажыццявілі нечаканы і вельмі небяспечны танкавы прарыў у нашы бліжнія армейскія тылы, адлюстраваны празаікам у аповесці «Мёртвым не баліць». Яна працяглы час падвяргалася разноснай крытыцы, хоць на самай справе гэга вельмі праўдзівы і мужны твор, напоўнены высокай трагедыйнасцю, у якім пісьменнік шчодра выкарыстоўваў асабіста перажытае на вайне, даваў шмат аўтабіяграфічных дэталей і ўвогуле блізка

грымвўся рэальнай фактычнай канвы таго, што здарылася з ім у баях пад Кіравградам»

«Лёс эбярог нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення, ад імя тых, што юнакамі слазналі вайну і ўзмужнелі духам са зброяй у руках, для якіх дзень жыцця быў роўны веку жыцця»,— падкрэсліваў выдатны кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў. Сапраўды, Васіль Быкаў прыйшоў у літаратуру з палымяным жаданнем расказаць пра тое, наколькі цяжкая была мінулая вайна, «як нялёгка давалася яна нам — наша перамога», якія гераічныя намаганні мільёнаў людзей спатрэбіліся для таго, каб здабыць яе ў агні зацятых бітваў, расказаць не толькі ад свайго ўласнага імя, але і ад імя тых дзевяноста сямі працэнтаў сваіх равеснікаў, якія аказаліся менш шчаслівымі і не вярнуліся з крывавых палеткаў вайны. Гэтую задачу, пераконаны пісьменнік, можна паспяхова выканаць толькі пры абсалютнай шчырасці мастака і яго гранічнай, бескампраміснай праўдзівасці.

Вядома, і да Быкава і пісьменнікаў-франтавікоў яго пакалення ў савецкай літаратуры, у тым ліку ў беларускай, было нямала глыбокіх, сапраўды таленавітых твораў аб гераізме народа ў Айчыннай вайне. Маючы на ўвазе толькі беларускую прозу перыяду вайны і першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, можна згадаць раманны эпас Кузьмы Чорнага з яго маштабным, па-філасофску заглыбленым асэнсаваннем чалавечага лёсу ў віхуры ваеннага часу, лепшыя апавяданні пра вайну Івана Мележа, Янкі Брыля, Аляксея Кулакоўскага, Міколы Лупсякова і іншых пісьменнікаў. Як сур'ёзныя дасягненні беларускага ваеннага эпасу, створанага на працягу першага дзесяцігоддзя пасля вайны, і сёння ўспрымаюцца вельмі шырокія па ахопу рэчаіснасці, так званыя панарамныя раманы «Глыбокая плынь» Івана Шамякіна, «Мінскі напрамак» (асабліва яго апошняя рэдакцыя) Івана Мележа, «Векапомныя дні» Міхася Лынькова, «Расстаёмся ненадоўга» Аляксея Кулакоўскага, «Згуртаванасць» Міколы Ткачова. Але і ў гады вайны, і пасля шмат пісалася ў нас і павярхоўнапрыблізных, недастаткова праўдзівых, а то і адкрыта лакіровачных твораў з вельмі спрошчаным паказам народнай барацьбы супроць фашызму.

Ды к таму часу, калі ў літаратуры пачалі набіраць сілу Васіль Быкаў і яго равеснікі з багатым франтавым вопытам, ужо дастаткова выразна заўважаліся і недахопы нават лепшых панарамных раманаў першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Яны абумоўліваліся і грамадскай атмасферай таго перыяду, на якую вельмі моцна ўплывалі шматлікія культаўскія догмы і забароны, і самім імкненнем пісьменнікаў да ўсеабдымнасці, іх жаданнем у адным творы адлюстраваць самыя разнастайныя праявы народнага подзвігу ў Айчыннай вайне.

Як і блізкія яму тады прадстаўнікі ягонага пакалення ў рускай літаратуры (Рыгор Бакланаў, Юрый Бондараў, Віктар Астаф'еў і іншыя), Васіль Быкаў з самага пачатку сваёй творчай дзейнасці рашуча адмовіўся ад знешняй усеабдымнасці панарамных твораў. Яго любімым жанрам, у якім з найбольшай сілай і пераканальнасцю выявіліся багатыя магчымасці выдатнага таленту пісьменніка, стала невялікая аповесць з абмежаванай

колькасцю герояў і вельмі сціслай, гранічна лакалізаванай у прасторы і часе знешняй падзейнасцю. Гэткая аповесць настолькі характэрная для празаіка, што ў крытыцы яна ўжо даўно называецца быкаўскай. Аднак у лакальнай па свайму падзейнаму і прасторава-часаваму абсягу быкаўскай аповесці з нешматлікімі героямі скандэнсавана вялікая ўнутраная энергія. Такім чынам, «малафарматныя», але вельмі дакладна выверанья па ўсіх параметрах аповесці Васіля Быкава, прасякнутыя пафасам поўнай, бескампраміснай праўдзівасці, адлюстроўваюць гераізм народа ў перыяд Айчыннай вайны са значна большай глыбінёй і пераканальнасцю, чым ранейшыя панарамныя раманы, не кажучы ўжо аб павярхоўна-лакіровачнай літаратуры папярэдніх гадоў.

У апошнія даесяцігоддзі істотна пашыралася само паняцце гераізму, вартага адлюстравання ў мастацкай літаратуры, у вогуле чялавек на вайне стаў паказвацца намнога больш рознабакова, чым гэта рабілася раней. І тут таксама асабліва вялікая заслуга належыць Васілю Быкаву, які вельмі паслядоўна абараняе думку пра мнагастайнасць, шматаблічнасць гераізму і подзвігу.

Гэта я думка з'яўляецца па фасам аповесці «Абеліск» (разам з «Дажыць да світання» ад знача на Дзяржаўнай прэміяй СССР). З падкрэсленай палсмічнасцю і выразнасцю аголенай формулы яе выказвае тут Ткачук, чалавек шырокіх і, трэба сказаць, слушных поглядаў на гераічнае. Разка пярэчачы маладому дагматыку з паса дай Ксяндзову, ён пераконана заяўляе: «Жыццё — гэта мільёны сітуацый, мільёны характараў. І мільёны лёсаў. А вы ўсё хочаце ўкласці ў дзве-тры схемы. Каб прасцей! Ды меней турбот. Забіў немца ці не забіў?.. Ен болей забіў».

Гэта гаворыцца пра цэнтральнага героя аповесці настаўніка Мароза, які, свядома ахвяруючы жыццём, аддаў сябе ў рукі ворагаў, каб душэўна падтрымаць у апошнія хвіліны сваіх вучняў і выкрыць хлусню акупантаў.

Выразная праграмнасць адчуваецца і ў тым, што ўжо з першых сваіх твораў аб вайне празаік праяўляе калі не выключную, дык пераважную, асаблівую ўвагу да звычайнага, знешне мала і прыкметнагаф ва ўсякім разе някідкага, але затое масавага і якраз сваёй масавасцю вельмі важнага гераізму звычайных жа, радавых працаўнікоў вайны, якая на кожным кроку патрабавала ад усіх яе ўдзельнікаў поўнай «выкладкі», максімальнага, а часта і звышчалавечага па агульнапрынятых уяўленнях напружання духоўных і фізічных сіл.

Васіль Быкаў, зразумела, ніколі не адмаўляў велічы вельмі яркага, выключнага па сваёй самаахвярнасці гераізму, што выявіўся, скажам, у подзвігах Мікалая Гастэлы і Аляксандра Матросава, дарэчы, шырока адлюстраваных літаратурай. Але свой талент ён аддае паказу галоўным чынам радавых удзельнікаў вайны, сціплую мужнасць якіх пісьменнік па-сапраўднаму ацаніў яшчэ тады, калі зусім не збіраўся пісаць — на цяжкіх франтавых дарогах.

Гэткі герой выклікае найбольшую зацікаўленасць празаіка па цэлым шэрагу прычын. Тут мае сваё значэнне і тое, што асабісты ваенны, салдацкі

вопыт Васіля Быкава, які побач з перажытым яшчэ ў даваенныя гады вызиачае карэнныя асновы яго грамадзянскай мужнасці, чалавечай стойкасці і сумленнасці, яго ідэйных пераконанняў і мастацкай свядомасці, усяго ягонага эстэтычнага свету,— гэты вопыт у пісьменніка звязаны перш за ўсё і галоўным чынам з яго духоўнай, чалавечай блізкасцю да радавых вялікай бітвы супроць фашызму, з якімі пісьменнік у крывавай віхуры вайны дзяліў усе цяжкасці і нягоды і назаўсёды парадніўся вялікім франтавым брацтвам, замацаваным сумесна пралітай крывёю і здабытай перамогай.

Потым трэба прыняць да ведама і тое, што якраз радавы працаўнік вайны і ўся звязаная з ім яе штодзённасць, знешняя негераічнасць мала прываблівала папярэднюю літаратуру» у кожным разе рэдка а усёй сур'ёзнасцю даследавалася ёю. Творы Васіля Быкава і яго гартаваных вайною равеснікаў вельмі чула зрэагавалі на такую «недастатковасць» папярэдняй літаратуры і, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і з гэтай прычын і выклікалі вялікі грамадскі разананс.

Сярод фактараў, якія абумовілі ўстойлівую цікавасць быкаўскай мастацкай прозы да радавога ўдзельніка вайны, вельмі істотна і Тоеf што за гэтым, па сутнасці, стаіць, як слушна пісаў крытык Л. Лазараў, «цікавасць да народнага характару ў яго самым масавым выяўленні. Вось чаму ў аповесцях Быкава... яўна адчуваецца маштаб усенароднай вайны, у якой вырашаецца лес Радзімы9 велізарнае напружанне гіганцкай бітвы не на жыццё, а на смерць. І сіла духу герояў Быкава, і ўласцівае ім пачуццё адказнасці, і іх самаахвярнасць — за ўсім гэтым заўсёды паўстае народ на вайне, народ, які ўзняўся на абарону сваёй свабоды, гонару і жыцця».

Вернасць радавому працаўніку вайны, свайму галоўнаму герою, якога таксама ўжо даўно і звыкла называюць быкаўскім, пісьменнік захоўвае вельмі трывала, з твора ў твор. Тыпова быкаўскімі радавымі вялікай арміі змагароў з фашызмам уяўляюцца і няўклюдны няўмека ў вайсковых справах Фішар, вучоны-мастацтвазнавец, гатовы сумленна рабіць любую работу ў непрывычных, выключна цяжкіх для яго абставінах крывавай вайны, і жулікаваты з выгляду вясёлы насмешнік Свіст з яго падмочанай ранейшай біяграфіяй і добраахвотнай дарогай на фронт, і ціхмяны, звычайна зважлівы, але, нягледзячы на сваю першапачатковую боязкасць, упарты ў баі маладзенькі хлопец Глечык, і крыклівы, схільны да залішняй прыдзірлівасці да падначаленых, ды затое надзейны як камандзір старшына Карпенка, адзіны чалавек, што меў багаты армейскі вопыт, з усяго невялічкага заслону на звычайным чыгуначным пераездзе «з будкай і паламаным шлагбаумам Гэта героі з аповесці «Жураўліны крык», якія пры ўсёй разнастайнасці сваіх характараў і даваенных заняткаў, падобныя ў галоўным: усе яны змагаюцца да канца, сваёй крывёю, жыццём сваім забяспечваючы арганізаванае адступленне чырвонаармейскага батальёна. Праз іх трагедыйны лёс вельмі пераканальна паказваецца трагедыя першых ваенных месяцаў і рэалістычна выяўленая, някідкая ў звычайнасці сваіх знешніх праяў мужнасць савецкіх людзей, якая ў канчатковым выніку забяспечыла нашу перамогу.

У адзначанай літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа «Трэцяй ракеце» і ў «Здрадзе» дзеянне адбываецца намнога пазней, ужо на за ключным этапе вайны, калі яе вогненны вал дакаціўся да Румыніі і Венгрыі. Але і ў гэтых аповесцях героі тыпалагічна ранейшыя — усё тыя ж звычайныя людзі працы, якіх час прымусіў кінуць звыклы і вельмі натуральны для іх мірны занятак і ўзяцца за зброю. Такі ў першую чаргу Жаўтых з «Трэцяй ракеты».

Звычайнымі працаўнікамі вайны, радавымі вялікай бітвы народа супраць фашызму з'яўляюцца і пажылы, нехуцавы ездавы Здабудзька, наіўны і добры Цімошкін, упарты, але справядлівы Шчарбак («Здрада»), няўдачлівы камандзір узвода Клімчанка («Пастка»), цягавіты Іван Цярэшка з «Альпійскай балады», Васілевіч і яго баявыя сябры з «Мёртвым не баліць», Ананьеў і асаблівa Чумак з «Праклятай вышыні», Сцёпка Таўкач, Міця і Маслакоў з «Круглянскага моста», ужо згадваны Алесь Мароз і яго вучні з «Абеліска», Іваноўскі і Півавараў і іншыя персанажы з «Дажыць да світання», Ляўчук і Грыбаед з «Воўчай зграі», адзначанай разам з «Яго батальёнам» Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа, Зося Нарэйка з «Пайсці і не вярнуцца», Пятрок і Сцепаніда Багацькі з выдатнай аповесці «Знак бяды» (за яе Васілю Быкаву прысуджана Ленінская прэмія), а таксама Агееў і яго паплечнікі па падпольнай барацьбе з рамана «Кар'ер», не кажучы ўжо пра Сушчэню і Бурава з аповесці «У тумане», у якой вельмі востра, па-сучаснаму пастаўлена праблема даверу да чалавека.

З гэтага рада як быццам трохі выбіваюцца Сотнікаў з аднайменнай аповесці і Валошын з «Яго батальёна». У першым выпадку перад намі камандзір батарэі, сын героя грамадзянскай вайны. Але ў непасрэдным дзеянні твора мы бачым Сотнікава ў якасці радавога партызана. Праўда, гэта чалавек з вельмі высокім усведамленнем «свайго абавязку грамадзяніна, байца і камуніста».

Аднак жа свой салдацкі абавязак звычайна ўсведамляюць і да канца выконваюць і іншыя станоўчыя героі Васіля Быкава, як бы звычайна, будзённа, негераічна яны ні выглядалі. Тая ж Зося Нарэйка, «маленькі чалавек на гэтай зямлі», «выразна адчувала, што ў гэтай вайне, апроч як выстаяць і перамагчы, іншага выбару не існуе. Інакш не варта і жыць, лепш адразу галавой у прорву, каб не ашукваць сябе, не пакутаваць». Праўда, пакутаваць Зосьцы давялося аж зашмат, але змагаецца яна з выключнай упартасцю. Як і Сцепаніда Багацька, простая беларуская жанчына ўжо немаладога веку, якая гіне ў агні ею ж падпаленай уласнай хаты, але не здаецца паліцаям.

Увогуле, толькі людзі, якія пры ўсіх сваіх слабасцях, большых або меншых заганах здольныя ўрэшце сумленна выканаць свой абавязак у барацьбе з ворагам,— толькі яны ў творах Васіля Быкава і заслугоўваюць права на станоўчасць і пісьменніцкую прыхільнасць. Потым жа і Сотнікаў (і ў гэтым ён таксама ўжо зусім звычайны) «баяўся калісь за сваё жыццё, калі мог лёгка і непрыкметна загінуць у баі». «Выходзячы з бою жывым, ён таіў у сабе ціхенькае задавальненне, што куля абмінула яго». Усё гэта па-чалавечы вельмі зразумела і натуральна.

Вядома, Сотнікаў, як і іншыя героі Васіля Быкава, умеў змагацца з ворагам «да апошняй хвіліны». У партызанах ён перастаў баяцца і смерці («перабаяўся ўжо за дзесятак самых безнадзейных выпадкаў»). Для яго «важна было жыць, калі ён быў камандзірам у арміі, калі ад яго турбот і ўмельства залежалі жыцці людзей». Трапіўшы ж у безвыходных абставінах у палон да паліцаяў, ён ужо думае пра смерць са зброяй у руках як пра вялікую раскошу. Тут «ён амаль ужо зайздросціў тысячам тых шчасліўцаў, што знайшлі свой канец на шматлікіх палях баёў»,— зазначае аўтар, які даследуе ўнутраны свет Сотнікава вельмі скрупулёзна, з адчуваннем найтанчэйшых нюансаў яго псіхалагічнага стану.

Ідучы на смерць, Сотнікаў не столькі думае пра сябе, колькі заклапочаны тым, каб «нешта зрабіць для іншых», а яшчэ турбуецца, каб яго смерць не была марнай. «Як і кожная смерць у барацьбе, яна павінна нешта сцвярджаць, нешта адмаўляць і па магчымасці здзейсніць тое, што не паспела здзейсніць жыццё. Інакш — навошта тады жыццё? Надта трудна даецца яно чалавеку, каб безразважна ставіцца да яго канца»,— мяркуе Сотнікаў. І ўжо глыбіня гэтых разважанняў, як і яго здольнасць пранікліва аналізаваць самыя разнастайныя сітуацыі, выяўляе філасофскі склад сотнікаўскага мыслення, якое кладзе выразны адбітак на ўсю стылістыку аповесці з яе вельмі моцным аналітычна-філасофскім пачаткам.

Такі склад мыслення — з'ява не зусім звычайная, прынамсі, радавою яе назваць цяжка. Пэўным чынам узвышаецца Сотнікаў і тым, што ён хоча памерці «агітацыйна», імкнучыся сваёй мужнасцю перад тварам непазбежнага падтрымаць таго ж хлапчука ў будзёнаўцы, іншых сумленных людзей, сагнаных на месца пакарання. Але ж тое, як паводзяць сябе, гледзячы ў вочы смерці, яго героі, для Быкава важна заўсёды. А часта ў творах пісьменніка менавіта смерць, лепш сказаць, здольнасць мужна памерці, калі няма іншых варыянтаў, высвечвае глыбінную сутнасць герояў. І свой не толькі глыбокі сэнс, але нават і агітацыйны аспект, праўда, не так наглядна выяўлены, як у выпадку з Сотнікавым, ёсць і ў мужнай смерці Алеся Мароза («Абеліск»), лейтэнанта Іваноўскага («Дажыць да світання»), хоць той памірае зусім без сведкаў, сам-насам з ворагам, якога разам з сабою ўзрывае апошняй гранатай. Аднак суцяшэнне і апраўданне яго пакут, яго жыцця Іваноўскаму дае, як гэта і звычайна бывае ў герояў Васіля Быкава, усведамленне да канца, сумленна выкананага абавязку, упэўненасць, што ён зрабіў усё, што мог зрабіць. «Але застануцца жыць іншыя. Яны пераможуць, ім аднаўляць гэту зялёную шчаслівую зямлю, дыхаць на поўныя грудзі. І кахаць. Але хто ведае, ці не залежыць шчаслівы іх лес ад таго, як памрэ на гэтай дарозе двац цацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?» — такія апошнія думкі маладога лейтэнанта. І ў іх закладзены вялікі змест, выразна праглядвае галоўны пафас усёй аповесці.

Так што і агітацыйная смерць Сотнікава не выглядае вельмі ўжо выключнай у супастаўленні з жыццём і смерцю іншых быкаўскіх герояў. Тым больш што пісьменнік паказвае мужнасць апошніх гадзін і хвілін Сотнікава, само яго развітанне з жыццём без таго легендарнага арэолу, якім так любяць

узвышаць смерць некаторыя прыхільнікі ўзнёслай рамантычнай стылістыкі. Васіль Быкаў добра адчувае ўсю трагедыйнасць нават і гераічнай смерці і піша пра яе з дакладнасцю строгага і жорсткага рэалізму, які не можа закрываць вочы і на праявы жахлівага.

«Рыбак выпусціў падстаўку і адхіснуўся — ногі Сотнікава загойдаліся побач, збітая імі шапка ўпала на снег. Рыбак адскочыў, але тут жа нагнуўся і выхапіў яе з-пад вісельніка, які ўжо супакоена раскручваўся на вяроўцы, апісваючы круг у адзін, потым у другі бок. Рыбак не адважыўся зірнуць у яго твар — ён бачыў перад сабой толькі жахліва выпрастаныя ў паветры ногі — адну ў растаптаным бурку і побач неяк вывернутую пятою ўбок брудную, ссінелую ступню з падсохлай паскай крыві на костачцы.

Усё было скончана».

Такім бачыцца мёртвы Сотнікаў яго былому таварышу па партызанскай барацьбе, а цяпер здрадніку Рыбаку, які сам цаной гэтай здрады толькі што пазбегнуў шыбеніцы. Унутраны стан Рыбака, перапалоханага непапраўнасцю таго, што адбылося на яго вачах і пры яго юдаўскім удзеле,— гэты стан, вядома, уплывае на характар малюнка, вылучаючы ў ім страшнае, жахлівае. Але, відаць, ёсць тут і прынцыповае нежаданне пісьменніка ўпрыгожваць смерць, няхай сабе і сотнікаўскую, гераічную. Інача́й бы празаік выбраў іншы ракурс, паказаў малюнак вачыма каго-небудзь іншага з персанажаў або даў яго ад свайго, уласна пісьменніцкага імя. Ды ці мала сродкаў надаць герою ўзвышаны, выключны арэол ёсць у таленавітага мастака, калі толькі ён жадае гэта зрабіць. Славячы гераізм Сотнікава, яго мужнасць, сілу яго духу, Васіль Быкаў, як і звычайна, да гэтай выключнасці не імкнецца, пазбягае яе. Адпаведным чынам малюецца ў аповесці і знешні выгляд Сотнікава, з якім мы знаёмімся тады, калі ён, хворы і знясілены, нязвыкла ссутулены, «прыстала шкандыбае па снезе ў сваіх тоўстых стаптаных бурках», «апусціўшы галаў у глыбока насунутай, з апушчанымі краямі пілоткі».

Яшчэ больш падстаў меў бы пісьменнік гераізаваць пры жаданні свайго Валошына з аповесці «Яго батальён». Гэта ж у канчатковым выніку Герой Савецкага Саюза, камандзір палка, маёр, адным словам, фармальна не зусім звычайны, далёка не радавы ўдзельнік вайны. Але пра ўсё гэта мы ведаем толькі па скупых радках стылізаванай пад архіўны дакумент дапіскі, што падаецца ў канцы твора. А на працягу аповесці Валошын, яшчэ капітан, на нашых вачах адхілены ад камандавання батальёнам, дзейнічае пераважна як радавы воін, дзеліць са сваімі байцамі ўсе салдацкія нягоды, што выпадаюць у вельмі цяжкім наступленні на адну з «праклятых вышынь». Ды і будучы камбатам, ён не хаваўся за спіны падначаленых, не аддзяляў асабістага лёсу ад лёсу свайго батальёна. Таму і Валошын з поўнай падставай успрымаецца як тыпова быкаўскі герой, адзін з мільёнаў радавых вялікай бітвы з фашызмам. Да таго ж ён прадстаўнік самага шматлікага і самага пакутніцкага роду войск — пяхоты.

Калі б Васіль Быкаў зрабіў сваіх герояў «крыху іншымі, «незвычайнымі», адарваў ад зямлі — яны адразу б страцілі для нас сваю прывабнасць, роднасць з намі.

Героі ж Васіля Быкава — гэта мы, гэта кожны з нас. У тым іх сіла і неўміручасць»,— справядліва падкрэсліваў М. Матукоўскі.

Але звычайнасць, сціпласць, знешняя непрэтэнцыёзнасць і прастата быкаўскіх герояў не робіць іх дробязнымі, нецікавымі таму, што ў канчатковым выніку яны жывуць і паміраюць дзеля вялікай мэты, хаця і далека не заўсёды, хутчэй нават вельмі рэдка, гавораць пра гэта адкрыта, уголас. Але сэнс свайго змагання яны, часта падсвядома, адчуваюць дастаткова пэўна.

«Свой абавязак перад сумленнем і перад гісторыяй», абавязак, які мае глыбінную сувязь з адлюстраваннем народнага характару Айчыннай вайны, ёсць для Васіля Быкава і ў вельмі паслядоўным, бескампрамісным выкрыцці здрадніцтва і прыстасавальніцтва. Нянавісць пісьменніка да розных прыстасаванцаў і здраднікаў таксама жывіцца яго франтавой памяццю, яка я не можа забыць усю подласць і нікчэмнасць тых, хто хацеў выжыць за кошт іншых, за кошт самаадданых барацьбітоў з фашысцкай навалай.

Пісьменнік глыбока пераконаны, што без выкрыцця і грунтоўнага даследавання самой псіхалогіі здрадніцтва нельга выхаваць сапраўдных патрыётаў, якія не пахіснуцца перад любымі нечаканасцямі. Таму таксама з твора ў твор і паяўляюцца ў Быкава напісаныя звычайна сродкамі рэалістычнага пісьма, псіхалагічна заглыбленыя вобразы палахліўцаў, прыстасаванцаў і прамых здраднікаў, такіх, як Аўсееў і Пшанічны з «Жураўлінага крыку», Блішчынскі са «Здрады», Задарожны з «Трэцяй ракеты», Чарноў з «Пасткі», Сахно з «Мёртвым не баліць», Брытвін з яго карыслівым і вельмі небяспечным практыцызмам з «Круглянскага моста», той жа Рыбак З' аповесці «Сотнікаў», Кудраўцаў («Воўчая зграя»), Галубін («Пайсці і не вярнуцца»), Гуж, Каландзёнак і Недасека са «Знака бяды», Драздзенка і Кавешка з рамана «Кар'ер».

Усіх іх аўтар судзіць патрабавальна, бескампрамісна, бязлітасна, судзіць ад імя сваіх франтавых сяброў, у імя будучыні.

Знешне бясхітрасныя аповесці Васіля Быкава маюць дакладна разлічаную і добра выверaную ўнутраную структуру. Па словах Чынгіза Айтматава, яны ідуць а дна за другой «суровым, шчыльным строем, як салдаты». І разам з раманам «Кар'ер» паступова складваюцца ў своеасаблівую эпапею аб народным подзвігу ў гады Айчыннай вайны.

У гэтую эпапею, якую Васіль Быкаў, знаходзячыся «на бестэрміновай перадавой» (А. Адамовіч), піша ўжо больш за трыццаць гадоў, кожная новая аповесць дадае сваю яркую і выразную фарбу, узбагачаючы, паглыбляючы пісьменніцкую думку пра гераізм народа. Менавіта яна, маштабная думка пісьменніка, якая нарошчвае сваю мускулатуру, павялічвае сваю моц ад твора да твора, глыбіннае, у самой сваёй аснове, адзінства маральна-этычнага пафасу ў паказе чалавека на вайне і цэментуюць, аб'ядноўваюць, як гэта пераканана даведзена Алесем Адамовічам, у цэласную эстэтычную сістэму ўсе быкаўскія аповесці, кожная з якіх найбольш поўна выяўляе сваю змястоўнасць праз яе суаднесенасць з іншымі.

Добра разважаў пра гэта Міхась Лынькоў, які, згодна сведчання Ю. Пшыркова, казаў: «Я з хваляваннем чытаю кожны новы твор Быкава... Ад яго патрабуюць эпапею вайны і не заўважаюць, што якраз ён стварае эпапею, толькі падобную не на «Вайну і мір», «Ціхі Дон», а на «Ператварэнне Расіі» Сяргеева-Цэнскага і «Чалавечую камедыю» Бальзака».

І на самай справе, маштабы зробленага пісьменнікам у адлюстраванні народнага гераізму ўражваюць надзвычай моцна. Але яны разам з тым пераконваюць, што быкаўская практыка не адмяняе і не перакрэслівае сапраўдную эпапейнасць, калі, вядома, мець на ўвазе перш за ўсё не фармальны бок справы, а маштабнасць у асэнсаванні рэчаіснасці. Яна, гэтая практыка, супрацьстаіць толькі тым псеўдаэпапеям, у якіх пры ўсёй знешняй размашыстасці і шматтомнасці няма належнай глыбіні і праўдзівасці ў паказе народнага жыцця. А тое, што пэўным чынам абнавіўся сам прынцып, на аснове якога вырастае своеаеаблівая быкаўская эпапейнасць, набывае ўсё большую значнасць і глыбіню быкаўская карціна народнага подзвігу ў барацьбе з фашызмам,— гэта не так ужо істотна. Галоўнае, што эпапея, няхай і ў новых, прынамсі, не зусім звыклых для класічнага вопыту фармальных параметрах, але працягваецца.

Вядома, аповесці ад «Жураўлінага крыку» да «Знака бяды» і «У тумане», а таксама раман «Кар'ер» складаюць аснову створанай Васілём Быкавым мастацкай эпапеі пра трагедыю і гераізм народа ў гады Айчыннай вайны, а часткова і ў іншыя перыяды нашага жыцця. Напрыклад, у час прымусовай калектывізацыі. Яна, як цяпер прызнана, пад націскам Сталіна праводзілася з нечуванай паспешлівасцю і з грубым парушэннем ленінскага падыходу да сялянства і таму стала для яго сапраўднай трагедыяй, якую пісьменнік з уласцівай яму праўдзівасцю паказаў у тым жа «Знаку бяды» і ў аповесці «Аблава» (1989) — самым трагедыйным творы пісьменніка.

Есць у Васіля Быкава і таленавітыя апавяданні. Яны таксама ўзбагачаюць быкаўскі летапіс народных пакут і гераізму. Асабліва цікавыя ў многіх адносінах апавяданні «На сцяжыне жыцця», «А дна ноч», «Сваякі».

Спрабаваў свае сілы пісьменнік і ў драматургіі. Яго п'есы, у прыватнасці «Апошні шанц», ставіліся ў Маскве, Мінску, Гродна. Спецыяльнай гаворкі заслугоўвае нялёгкая і не заўсёды ўдзячная праца Васіля Быкава ў якасці кінасцэнарыста.

Пісьменнік жыве напружаным грамадскім жыццём. Ен з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, прымае вельмі актыўны ўдзел у літаратурным працэсе краіны, часта выступав ў перыядычным друку з публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі. Яны часткова сабраны ў кнізе «Праўдай адзінай» (1984). У сваіх артыкулах, якія належаць да лепшых узораў пісьменніцкай публіцыстыкі і звычайна атрымліваюць шырокі грамадскі розгалас, Васіль Быкаў адгукаецца на самыя надзённыя і вострыя праблемы гісторыі і сучаснасці. Ен уздымае свой голас у абарону тых незаконна рэпрэсіраваных у 30-я гады пісьменнікаў і вучоных, якія яшчэ і цяпер з боку нядобрасумленных людзей часам падвяргаюцца неабгрунтаваным нападкам, з трывогай піша пра незайздроснае становішча беларускай мовы, якая да

самых апошніх часоў усё больш выціскалася з многіх сфер жыцця нашай рэспублікі. А мова ж, разважае пісьменнік, гэта «самае капггоўнае багацце нацыі», «душа народа», «выражэнне яго характару, самабытнасці», «своеасаблівы генафонд нацыянальнай культуры». Адцураўшыся роднага слова, мы перасталі б існаваць як народ, як нацыя, зніклі б «з твару зямлі, як некалі зніклі летапісныя яцвягі, якія насялялі паўночна-заходнюю Беларусь», зазначае Васіль Быкаў у інтэрв'ю для газеты «Известия», якое так і называецца: «Мова — душа народа».

Вельмі пераканальна абвяргае пісьменнік нярэдкія і сёння дэмагагічныя сцвярджэнні, што беларусы толькі самі вінаваты ва ўсіх бедах, што напаткалі нашу мову і многія галіны нашай культуры. На самай справе пачалося ўсё з парушэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, з жахлівых рэпрэсій культаўскага перыяду, справядліва падкрэслівае Васіль Быкаў. «Ужо ў канцы дваццатых гадоў была разгромлена Акадэмія навук БССР (першы прэзідэнт якой У. Ігнатоўскі скончыў жыццё самагубствам), на рубяжы трыццатых гадоў пачаўся пагром сярод пісьменнікаў Беларусі, у творчых аб'яднаннях. Ужо ў тыя гады была прычынена непапраўная шкода нацыянальнай культуры, цалкам спынена палітыка беларусізацыі, якая не паспела даць колькі-небудзь выразныя вынікі... Беларуская мова, якая нядаўна яшчэ бурна квітнела ў гарадах, пачала вянуць навідавоку, железным памялом яе вымяталі з устаноў, ВНУ, Акадэміі навук, арганізацый і органаў улады. Права карыстацца ёю засталося за некалькімі газетамі, двума тэатрамі ды Саюзам пісьменнікаў, які перад вайной скараціўся да двух дзесяткаў членаў. Астатнія былі знішчаны або знаходзіліся ў лагерах на ўсходзе краіны»,— піша празаік у артикуле «Учора і сёння». Піша, вядома, рэзка, з гневам і абурэннем, але слушна, бо такая наша горкая праўда.

І вынікі таго пагрому, да якога яшчэ дадалося ў лепшым выпад ку абыякавае стаўленне да нацыянальнай культуры ў валюнтарысцкія і застойный часы, сёння пераадольваць вельмі нялёгка. Але абсалютна неабходна. І зусім неадкладна, калі мы хочам захаваць сябе як народ, як самабытную славянскую нацыю. А для гэтага, падкрэслівае мастак, трэба «вучыць дзяцей роднай мове як можна раней — у сям'і, у дзіцячым садзе, з першага класа ў школе; прадугледзець выпускныя экзамены па мове ў школе і ўступныя ў ВНУ. Гэта ў якасці самага першапачатковага кроку. Я б яшчэ прапанаваў, каб партыйныя і савецкія кіраўнікі ў зносінах з беларускамоўным насельніцтвам рэспублікі (якога па перапісу налічваецца каля 80 працэнтаў) перайшлі на яго родную мову».

У гэтых прапановах, як і ва ўсім, што піша Васіль Быкаў, чуецца голас заклапочанага грамадзяніна і сумленнага, сапраўды народнага пісьменніка, які заўсёды змагаецца за справядлівасць, праўду і чалавечнасць і ўмее думаць не толькі пра сённяшні дзень, але і пра будучыню свайго народа. А таксама пра лес чалавецтва, трывожная заклапочанасць якім абумоўлівае ўзмацненне антываеннага пафасу ў быкаўскіх творах апошніх гадоў.

*Дзмітрый БУГАЁЎ*

# АЛЬПІЙСКАЯ БАЛАДА

## 1

Ён упаў, спатыкнуўшыся аб штосьці, і адразу ж ускочыў – адчуў: трэба хутчэй ад гэтага месца, ад забітага камандафюрэра; пакуль не спахапіліся, трэба недзе зашыцца, схавацца, а можа, і прарвацца з завода. Але ў віхурыстым пыле, які накрыў цэх, амаль нічога не было відаць, і ён ледзьве не сунуўся ў чорную прорву варонкі, дзе была бомба. Па краі аббег яму, каб неналяцець на што ў пыле, выцяг наперад руку, у другой напагатове сціскаючы пісталет, перакуліўся цераз вялізную, пэўна, вывернутую з зямлі бетонную глыбу, балюча аб штосьці ўдарыўся галёнкаю. Ускочыў ужо босы, калодкі недзе зваліліся з ног, і ён зразумеў, што гэта кепска – нагам стала вельмі балюча на закіданым друзам доле.

Ззаду тым часам пачуліся крыкі, у другім канцы цэха гулка разнеслася аўтаматная чарга. «Чорта з два», – сказаў ён сабе, адным махам пераскочыў абрушаную з перакрыцця жалезную ферму, узбег на пахілены, трохі не паваленых прасценак. Пыл ад выбуху патроху стаў асядаць, рассейвацца, але яшчэ добра хаваў яго. Ён узбег на самы верх прасценка, тут ужо стала відаць наваколле; яго абдало ветрам, які хутка разганяў пыл. Па бетоннай рабрыне, утрымліваючы раўнавагу рукамі, каб не зваліцца, дабраўся да краю абвалу – наперадзе праз якія тры крокі была вышчарбленая сцяна знешняй агароджы, а далей за ёю, быццам нічога ў цэлым свеце не сталася, ціха тулілася ў зеляніне некалькі домікаў, і зусім блізка ўгары, на схіле, рукой падаць, зеляней лес і Альпы: яго надзея, яго жыццё або смерць – яго лёс. Іван акінуў усё гэта кароткім позіркам, сунуў у зубы пластмасавую рукаятку пісталета і скочыў. У грабяні агароджы тырчалі вострыя жалезныя шыпы, ён ухапіўся за два з іх рукамі і, не марудзячы, рыўком перакінуў цела на другі бок. Скакаць, аднак, памарудзіў, апусціўся нагамі, каб было ніжэй, і тады адарваўся. Ён упаў на быльнёг, перахапіў у руку пісталет і з усяе сілы кінуўся па бульбоўніку ўздоўж высокай драцяной загародкі.

Ззаду стралялі і крычалі, недзе далей усчаўся брэх аўчарак – гэта было найгоршае, але думаць, перайначваць што-небудзь ужо не выпадала. Некалькі куль правішчалі высока над галавой, і ён, бегучы, адчуў – гэта не ў яго, яго яшчэ не ўбачылі. Раздзіраючы пальцы на босых нагах, пералез цераз сетку загарадзі і па калючай шлакавай дарожцы яшчэ хутчэй прыпусціўся далей – усё ўгору, да блізкай ускраіны.

Тым часам выбух бомбы ў цэху ўстрывожыў людзей. З боку ад нейкага белага доміка з усіх ног беглі да завода два хлопчыкі; яны, на шчасце, не заўважылі яго, і Іван шыбаваў далей. Але вось наперадзе з-за кустоў акацыі ледзьве не пад ногі яму сунулася дзяўчына ў квяцістай сукенцы з палівачкаю ў руках. У вачах яе бліснуў жах, яна ўскрыкнула, і палівачка з бразгатам паляцела на дарожку. Ён моўчкі прамчаўся міма, выскачыў на шырэйшую ўскраінную вуліцу, зірнуў у адзін бок, у другі – вуліца была пустая. Іван перабег яе, прадраўся праз калючы гушчар пасадкі і тады ўпаў. Наперадзе дамоў ужо не было, на касагорыне спакойна ляжаў някошаны лужок – у бязветранай цішы драмалі рамонкі, лагодна гойдаліся мяцёлкі нейкай травы; далей і вышэй у раўках і распадках пачынаўся лес. Над усім у спякотным чэрвеньскім небе тоўпіліся шызыя груды Альпаў.

Стрымліваючы шалёны дых, Іван услухаўся. Ззаду даносіліся крыкі і стрэлы, сталі гучней екатаць аўчаркі, але гэта там, на заводзе, – за ім жа, здаецца, не гналіся. Рукавом паласатае курткі ён ацёр з твару пот, што залівае вочы, прыўзняўся, намячаючы па лужку шлях угору; непадалёк прыкмеціў раўчук, што бліжэй падступаў да гарадка, туды ж па крутым схіле збягалі зверху рэдкія на ўзлеску ялінкі. І ён ускочыў.

Гэта было вельмі трудна, бо ногі сталі надзвычай непадатлівыя і вялыя, а цела налівалася ўсё большым цяжарам. На сярэдзіне схілу ён зноў азірнуўся. Сабачы брэх набліжаўся, секанула блізкая чарга, але куль ён не пачуў – значыць, яшчэ не па ім. Па іншых. Відаць, там разбягаліся. Гэта аблягчала яго становішча, і ён упершыню падумаў пра хлопцаў. І першы раз балюча здрыганулася яго сэрца: наўрад ці ўцалеў хто, – мабыць, усе заплацілі сабой за яго волю.

Ён аслабела трухаў цераз узгорак. Ззаду як на далоні відзён стаў увесь гэты аўстрыйскі гарадок, пярэднюю палову якога займалі доўгія, быццам ангары, гмахі завода, у якіх сям-там чарнела правалле і руіны ад бамбёжак; даўжэзная загародка-сцяна ў адным месцы была абрушана, ля яе ў канцы корпуса тырчалі пакарэжаныя фермы перакрыцця. І там, відаць было, снаваліу мітусіліся людзі. Ён прыгнуўся (ужо, калі ўкленчыць у траве, можна было схавацца за пагоркам) і так хвілін некалькі бег уніз, у раўчук, пакуль урэшце, затулены пагоркам, не выпрастаўся. Побач на касагорыне стаяў лес.

Аціраючы рукавамі твар, ён прыпыніў бег – далей шлях яго пралягаў па схіле травяністага раўка-распадка. Падём тут зрабіўся яшчэ больш стромкі, побач між слізкіх камянёў шумна віраваў ручай. Іван шпарка ішоў, пакуль не дасяг першых рэдкіх ялін, і тады ззаду данёсся вельмі паблізкі сабачы брэх. Здавалася, гэта было зусім

блізка, за пагоркам, і ён зноў знясілена пабег угору. Хоць бы як-небудзь паспець да лесу, у гушчар елак, там лягчэй схавацца, можна б як ашукаць даганятых або, калі ўжо не суджана вырвацца на волю, загінуць недарма.

Толькі дабегчы да лесу Іван не паспеў.

Ён лез па траве ўгору, мінаючы вялікія і малыя абломкі скал з рассыпанай навокал жарствою, і ўжо амаль дасягнуў хваёвага ўзлеску, як ззаду, вынырнуўшы з-за пагорка, гучна і разюшана забрахалі сабакі. Іван кінуўся ўбок, да маладой ялінкі, і, прыгнуўшыся, выглянуў між галін: цераз бугор, мільгаючы ў траве палавою спіной, па ягоных слядах імчалася аўчарка. Недзе за ёй хрыпата гаўкала другая; немцаў, аднак, не было відаць.

Тады ён азірнуўся, зразумеў, што да гушчару ўжо не паспець, шырэй расставіў ногі і мацней сцяў у кулаку пісталет. Колькі ў магазіне было патронаў, ён не ведаў, лічыць іх цяпер не было калі, хоць ён і разумеў, што ў патронах яго паратунак. І ён на хвіліну расслабіў мускулы, стараючыся раўней дыхаць. Трэба было супакоіцца, сабрацца з сілаю, суняць сэрца ў грудзях, каб ударыць без промаху.

Сабака тым часам убачыў яго, заекатаў гучней, зласлівей, з задыханым зморaным сапам і, выкідваючы папарна складзеныя лапы, сігаў угору. Стоячы за ялінай, Іван прыгнуўся, позіркам адмераў якую паўсотню крокаў да вострага каменнага абломка ў траве і скіраваў туды пісталет. Аўчарка разгоністымі скачкамі набліжалася, прыцяўшы да галавы вушы, выцягшы хвост; ужо стала відаць яе разяўленая зяпа з высунутым языком і жоўтыя клыкі абапал. Іван зацяў дыханне, стараючыся як найлепей пацэліць, і, трошкі не падпусціўшы сабаку да каменя, стрэліў. У той жа міг зразумеў – прамазаў. Пісталет тузануўся ствалом угору, засмярдзела порахам, аўчарка завішчала з яшчэ большым імпэтам. Тады ён, амаль не цэлячыся, але фізічна адчуваючы напрамак яе страшнага бегу, паспешліва стрэліў другі раз. І раптоўна кароценькая радасць бліснула ў ягонай душы – сабака віскнуў, з шалёнага маху скочыў, перакуліўся цераз галаву і ў якіх дваццаці кроках ад яго забіўся, затузаўся ў траве ўсім целам. Ён тым часам ужо гатовы быў кінуцца ў лес, як тут жа згледзеў далей яшчэ аднаго – вялізны, з падпалінамі на баках ваўкадаў, шырока выкідваючы лапы, з дыхавічным сапам імчаў угору. За ім у траве валачылася-скакала доўгая раменная початка.

Усё ж Іван позна заўважыў небяспеку. Ён паспешна тыцнуў насустрач пісталетам, але стрэлу не было, – пэўна, штосьці заела.

Тады ён тузануў пісталет да сябе, ляпнуў па затворы далоняй, аднак ваўкадаў ужо быў побач, хрышата рыкнуў і скочыў. Іван, прыгнуўшыся, шаснуў за яліну, ваўкадаў пранёсся ля яго пляча, цяжка перакуліўся і з разяўленай зяпай вёртка скочыў назад. Іван, не ведаючы, як бараніцца, ускінуў насустрач рукі.

Гэта быў дужа імпэтны скачок, Іван не ўстаяў на нагах, пісталет выпаў, і яны абодва, чалавек і сабака, пакаціліся па зямлі. Здавалася, усё хутка скончыцца, але Іван у апошняе імгненне паспеў схапіць ваўкадава за ашыйнік і ў амаль нечалавечым напружанні рук не даў сашчапіцца на сабе ягоным зубам. Сабака дзеранўў яго кіпцюрамі, недзе, трэснуўшы, разарвалася адзежына. Іван, аднак, з усяе сілы трымаючы аўчарку за ашыйнік, левай рукой схапіў яе за пярэднюю лапу і крутнуў. Так яны яшчэ разы два перакаціліся адно цераз аднаго і зноў апынуліся побач. Іван выкінуў убок ногі і стараўся як-небудзь узваліцца на ваўкадава, але той задышліва хакаў, шалёна рвучыся да яго, і Іван адчуў, што доўга так не ўтрывае. Тады ён у апошнім рашучым намаганні, у якое сабраў увесь спрыт, вертануўся на зямлі, злаўчыўся, перакінуў цераз сябе сабаку, каб самому апынуцца вышэй, і з усяе сілы даўлянуў яго каленам у скабіны. Той таксама тузануўся, ледзьве не вырваўшы з рукі ашыйніка, коратка екатнуў, але – адчуў Іван – пад каленам у яго штосьці нібы хруснула. Сабака прарэзліва завішчаў, чалавек, здзіраючы з пальцаў скуру, тужэй закруціў ашыйнік, і яшчэ намогся каленам. Аднак ваўкадаў віскнуў, падкінуў задам, ашалела тузануўся і вырваўся.

У Івана штосьці азвярэла ў душы, ён сцяўся, адразу ж чакаючы новага скачка. Але сабака не скакаў, распластаўся на зямлі і, выцягшы наперад тоўстую морду з вываленым набок языком, часта, зморана дыхаў і дзіка глядзеў на чалавека. У Івана, натруджаная ашыйнікам, пякуча гарэла правая рука, нервова торгаўся ад ператомы мускул у прадплеччы, ледзьве не выскоквала з грудзей сэрца. Ён таксама некалькі секунд, паклаўшы на траву дрыготкія рукі, стаяў на каленях і амаль не па-чалавечы, здзічэла глядзеў на сабаку.

Яны абодва ашалелымі вачыма сачылі адзін за адным, баючыся прапусціць адзін у другога першае жаданне скочыць. Іван да таго ж вельмі баяўся, што вось-вось з'явяцца немцы, і гэтыя некалькі секунд здаліся яму вечнасцю. Пасля ён падумаў, што ваўкадаў наўрад ці кінецца на яго, і нерашуча падняўся на ногі. Не адрываючы ад ворага пільнага позірку, ён сігануў убок і схапіў з травы кавалак каменя. Ваўкадаў натапырыў хрыбціну, ударыў па зямлі хвастом, здалося, скокне, але ўсё ж не скочыў, – відаць, яму дасталося не менш, чым

чалавеку, і ён ціхенька, бяссільна екатаў. Тады Іван болей рашуча ступіў назад яшчэ раз, ваўкадаў прыўзняўся, пасунуўся, почапка яго заварушылася ў траве. Аднак ён не пабег і не скочыў. Іван, бачачы гэта, яшчэ больш асмялеў і бокам хутка пасігаў угору да яліны, дзе быў пісталет.

Сабака заскавытаў ад бяссільнай ярасці, валочачы пакалечаны зад, аслабела прапоўз у траве і спыніўся. А чалавек ухапіў з травы браўнінг і зморана, наколькі дазваляла рэшта яго сіл, патрухаў па распадку ўгору, у яловы гушчар.

**2**

Яшчэ праз якіх пяць хвілін ён быў ужо ў лесе і бег уздоўж вірлівага, з празрыстай вадой, ручая. Лес тут быў чысты, без ламачча, бегчы, аднак, перашкаджалі частыя абломкі скал. Падём таксама станавіўся ўсё болей круты і хутка забіраў сілы. Чакаючы і баючыся новай пагоні, Іван ускочыў быў у ручай, каб схаваць ад аўчарак след. Вада ледзяным холадам пругка ўдарыла ў ногі, да болю апякла ступні, і ён, прабегшы якіх дваццаць крокаў, выскачыў зноў на бераг. Ускарабкаўся на скальную кручу, тузануў, перазараджаючы, пісталет, – затвор выкінуў на камяні перакошаны патрон. Іван сагнуўся падняць яго і раптам абмёр – праз гаманлівае булькатанне ручая ззаду данеслася гамонка. Забыўшыся на патрон, ён таропка кінуўся ўгору, крышку ў бок ад ручая, на схіл распадка, пралез цераз гушчар маладога ельніку і, ледзьве спраўляючыся з дыханнем, апусціўся на чацвярэнькі.

Спачатку яму здалося, што скрозь было ціха, толькі зводдаль вуркатаў ручай ды шумелі верхавіны елак. Гэта падзьмуў фён, і ў небе з-за гор выплыў ускудлачаны акраек хмары – хутка насоўваўся дождж. Іван насцярожанымі вачыма агледзеўся па баках, аббег позіркам каменне пад елкамі ўнізе – быццам нідзе нікога. Ён ужо хацеў бегчы далей, як ззаду да яго слыху даляцеў трошкі сцішаны, але настойлівы вокліч:

– Руссо!

Іван хіснуўся ніжэй, угнуў галаў – не, то быў не немец, а мусіць, які гефтлінг[1]. Але не хапала яшчэ клопатаў чакаць каго, тут хоць бы як выкарабкацца самому: ведаў з уласнага вопыту, як гэта трудна. Немцы, мусіць, паднялі ўжо трывогу і даганяюць – не так гэта проста ўцячы.

---

[1] Зняволены. *(ням.)*

І ён з усяе сілы пабег, пакарабкаўся між камянёў і елак угору, наўкос па горным лясістым схіле. Ручай застаўся недзе ўбаку, гоман яго прыціх; мацней і выразней сталі шумець яліны; свежы вецер размашыста гойдаў іх верхавінамі; сонца схавалася; змаркатнелае неба ўсё далей і шырэй абкладвала мутная хмара. Было душна, куртка на спіне прамокла ад поту, паласаты берэт ён недзе згубіў і твар выціраў рукамі, увесь час сочачы за наваколлем і ўслухоўваючыся. Аднаго разу, пераводзячы дыханне, ён пачуў далёкае яшчэ, але настойлівае вуркатанне матацыклаў: тут недзе праходзіла дарога, і немцы, вядома, ужо ачаплялі раён. Ахоплены панылым прадчуваннем, Іван услухоўваўся, мяркуючы, як уцякаць далей, і ў той жа час па нейкім невыразным гуку адчуў, што ззаду хтосьці бяжыць. Гэта ўжо было дрэнна: можа, той зусім не гефтлінг, а немец! Іван адскочыў за імшысты камель елкі і шчоўкнуў ахоўнікам браўнінга. Тым часам матацыклы з усё большым трэскатам набліжаліся. «Абкладваюць, сволачы...» – мільганула думка. Іван азірнуўся, апусціўся за елкай на адно калена і прыўзняў сціснуты ў кулаку пісталет. Зноў унізе стукнулі па камянях крокі. Ён угледзеўся, зусім пэўна адчуваючы ў гушчары месца, дзе з'явіцца чалавек. Але нейкі час ніхто там не паказваўся, і Іван напружана чакаў. Урэшце на прагалак між дрэў унізе выбегла лёгкая паласатая постаць на выгляд быццам падлетка, азірнулася, жвава неяк кінула позірк угору і згледзела яго.

– Руссо!

Жанчына?! Гэта яго здзівіла і збянтэжыла, ён ледзьве не вылаяўся ад прыкрасці, але блізкі роў матацыклаў пераключыў ягоную ўвагу – яны ўжо былі побач, толькі вышэй. Іван вертануўся на зямлі, не ведаючы, куды падацца: між рэдкіх камлёў дрэў яго тут маглі лёгка ўбачыць зверху. І ён сігануў у неглыбокі вышчарбак-нішу пад крутаватай скалою, прыгнуўся, увесь ператварыўшыся ў спрыт і асцярогу. Паласатая постаць унізе на хвіліну знікла за краем абрыву, і ён не глядзеў куды – найболей асцерагаючыся матацыклаў, напружана слухаў. Але вось знізу праз дваццаць крокаў з-за каменя з'явілася дзяўчына ў доўгай, не па росце куртцы з падкасанымі рукавамі і чырвоным трохкутнікам вінкеля на грудзях. Яна хутка зірнула па баках, і ён заўважыў, як пад шапкаю чорных, даўнавата не стрыжаных валасоў радаснай жвавасцю бліснулі гэткія ж чорныя, нібы дзве масліны, вочы.

-Чао!

Ён чуў ужо гэтае слова і зразумеў яго – так заўсёды віталіся гефтлінгі-італьянцы. Аднак цяпер, услухоўваючыся ў трэскат над

галавой, ён змоўчаў, чакаючы, што яна вось-вось шмыгне куды ў схovішча. Але яна, здаецца, зусім безуважная да небяспекі, зноў азірнулася і таропка загаманіла па-нямецку, як зразумеў Іван, некага праганяючы ад сябе. Іван паглядзеў у падлесак – там, адкуль выскачыла дзяўчына, туліўся на каленях яшчэ нехта ў паласатым, але ён зараз жа шмыгнуў назад і прапаў у гушчары ельніку. Іван ужо хацеў кінуцца куды далей ад гэтых гефтлінгаў, як дзяўчына лёгка выскачыла з-за абрыву, нагнулася, таропка сунула ногі ў калодкі, якія дагэтуль трымала ў руках, і, заляскаўшы імі, падалася да яго.

Ён аж сцяўся ад страху. Матацыклы раўлі ледзьве не над іх галовамі, і яе недарэчна-паказная адвага гнеўна сцебанула яго напятае да болю адчуванне – іх жа так лёгка маглі тут убачыць. Іван, прыгнуўшыся, скочыў да дзяўчыны і за руку злосна рвануў яе пад скалу. Пры гэтым ён ціха, але бадай што з лютасцю вылаяўся. Яна падатна і лёгка, ледзьве не ўпаўшы, шырока матлянулася за ім, адна яе калодка звалілася з нагі і, застукаўшы па камянях, адляцела прэч.

– Ой, клумпес! – сцішана ўскрыкнула яна.

Матацыклы адзін за адным, абдаючы іх трэскатам, праносіліся недзе зусім блізка, а яна, не зважаючы ні на іх, ні на яго відавочную злосць, вырвала руку і кінулася за калодкай. Іван не паспеў яе ўтрымаць, толькі скрыгануў зубамі. А яна тым часам, спрытна схапіўшы калодку, матлянулася назад, коратка, нібы вінавата, зірнула на яго, у яе вачах бліснуў азарт і неслухмянасць распешчанай зухаватай дзяўчынкі. І тады Іван, не справіўшыся з напятымі нервамі і ўзарваны спазнелаю злосцю, ляснуў яе па шчацэ.

Дзяўчына коратка войкнула, але не адхіснулася, толькі ўпала пад скалу побач і з-пад локця зірнула на яго ўгору вачыма, поўнымі не гневу, а нейкага гарэзнага здзіўлення.

Матацыклы – чуваць было – аддаляліся, і Іван адразу ж пашкадаваў, што не стрымаўся. А яна на момант засяродзілася, акруглíла вочы, услухалася, здавалася, толькі цяпер усвядоміўшы, што ім тут пагражала, і, падцяўшы калена ў гэткай жа паласатай, як і ў яго, штаніне, насунула на ступню калодку. Пасля зноў зірнула на яго і, па-дзіцячы няўмела выгаворваючы словы, нібы картавячы, паўтарыла ягоную лаянку.

Гэта было так нечакана, як і яго аплявуха, і здалося Івану такім незвычайным, што ў ім нешта скранулася, зрушылася – нешта чалавечае на момант шыбанула ў яго заскарузлую ад гора душу, і ён упершыню за сённяшні дзень здзіўлена і шырока раскрыў свае вочы.

– Ого!

